…ная газета Рыма-Каталіцкага Касцёла

Святочны выпуск
Снежань 2000

# Веснік надзеі

Магілёў - Бабруйск - Асіповічы - Шклоў - Мсціслаў - Чавусы - Касцюковічы – Круглае – Бялынічы – Расно



## *Прыйдзі!*

*Вось прыходзіць Усемагутны Пан, назавуць Яго імем Эмануэль, Бог з намі.*

*( Іс. 7,14; 8,10 )*

"Прыйдзі!" – гэтымі словамі Касцёл у перыяд Адвэнту выражае поўнае тугі чаканне прыходу Збаўцы, чаканне часу, калі споўніцца прароцтва:

*Вырасце галінка з кораня Ясея,*
*Слова Пана напоўніць усю зямлю,*
*і ўсе людзі ўбачаць Божае збавенне.*

*( Іс. 11,1; 40,5;Лк.3,6 )*

**Умілаваныя парафіяне, дарагія браты і сёстры!**

*Кароткія адвэнтовыя дні падаўжаюць ноч. Упрыгожаныя каляровымі гірляндамі вуліцы і вокны крамаў ствараюць таямнічы і ўрачысты настрой чакання Божага Нараджэння.*

*Бог наведаў свой люд і вось ужо 2000 гадоў жыве сярод нас. У вігілійны вечар на Божае Нараджэнне мы традыцыйна збіраемся ля стала з аплаткам, які сімвалізуе дабрыню і любоў цяжкай чалавечай працы. Сустракаемся ў сям'і, каб даравацъ усе крыўды і аднавіць сувязі, дзелячыся між сабой аплаткам. Гэтага хоча Бог, Які так бязмежна нас палюбіў, што ахвяраваў Свайго Адзінароднага Сына, каб мы маглі чарпаць з гэтай любові сілу для ўзаемнага прабачэння і даравання ўсім, хто нас як-кольвек пакрыўдзіў: нашым суседзям, сябрам, супрацоўнікам, знаёмым… Бо ў такой атмасферы прабачэння і згоды нанава нараджаецца Хрыстос, зазначаючы сваю прысутнасць сярод нас супакоем і радасцю ў сямейнай і кожнай іншай супольнасці.*

*Сёлетні Юбілейны Год праз спецыяльныя знакі і падзеі – сведчанні веры хрысціянскага люду – рыхтаваў нас да святкавання Божага Нараджэння.*

*Мы злучаліся са Святым Айцом падчас яго пілігрымкі ў Святую Зямлю – край, дзе Божы Сын Езус Хрыстос нарадзіўся як чалавек. Мы наведвалі юбілейныя святыні і пілігрымавалі да Маці Божай Будслаўскай, Апякункі Беларусі. Некаторыя з нас мелі шчасце прайсці праз Святыя Дзверы ватыканскай базылікі, адчыненыя Святым Айцом падчас урачыстага распачацця цырымоній Вялікага Юбілею Адкуплення 2000 Года. Мы спаўнялі ўчынкі міласэрнасці, дзелячыся з бліжнімі матэрыяльнымі і духоўнымі дабротамі, вераю, добразычлівасцю і прабачаючай любоўю, каб скласці гэты дар сэрца ля ўбогай стаенкі і атрымаць ласку юбілейнага благаславенства.*

*Складаючы гэтыя юбілейныя ласкі прад Богам – Дзіцяткам, агортваем усіх вас сваёй малітвай і жадаем, каб Божая дабрыня, супакой і трывалая любоў засталіся з вамі на ўсе дні надыходзячага трэцяга тысячагоддзя.*

*Кленчачы прад стаенкай, даручаем Богу ўсе вашы патрэбы і нястачы, верачы, што ў адпаведным часе Ён паклапоціцца пра нас і пра Сваё Валадарства ў нашых сэрцах.*

*Са шчырымі святочнымі і навагоднімі віншаваннямі*
*ваш душпастыр Кс.Дэкан Раман Факсінскі з супрацоўнікамі.*



*Святы Божага Нараджэння – гэта асаблівы для кожнага з нас час: ізноў падзелімся белым аплаткам, жадаючы сабе ўзаемна ўсяго найлепшага ад Бога і людзей; ізноў сядзем за вігілійны стол, будзем спяваць калядныя песні; ізноў а поўначы пойдзем да нашых касцёлаў на пастэрку...*

*Зычым нашым чытачам Божага благаславення, супакою, надзеі і той надзвычайнай радасці, якую нясе чалавецтву Дзіця, народжанае ў Бэтлееме.*

*Рэдакцыя*

## Вігілійны вечар на Божае Нараджэнне ў сям'і

"Пасля святкавання Пасхальнай Містэрыі няма нічога больш дарагога для Касцёла, як адзначэнне ўспаміну Нараджэння Панскага і Яго першых выступленняў. Гэта адбываецца ў перыяд Нараджэння. Перыяд Нараджэння Пана пачынаецца ад першых Нешпараў Нараджэння Пана і працягваецца аж да нядзелі пасля Аб'яўлення Панскага, альбо да нядзелі пасля 6.01 уключна." (Каляндар, 33).

Слова "вігілія" абазначае чуванне, нясенне варты. Раней вігілія папярэднічала ўсім святам. Тады хрысціяне ў малітоўным чуванні ўсю ноч чакалі надыходу свята.

Сёння важным пунктам святкавання Божага Нараджэння павінна стаць вігілійная вячэра ў сям'і (24 снежня).

Перш за ўсё належыць паклапаціцца аб падрыхтоўцы вігілійнага стала; ён павінен быць адпаведна вялікім, каб кожнаму хапіла месца. Будзем памятаць пра добрую традыцыю нашых продкаў: за святочным сталом павінна быць вольнае месца для неспадзяванага госця, у якім наш дом можа наведаць сам Езус.

Вігілійны стол – месца нашага сумеснага сямейнага спаткання – накрываем белым абрусам, пад які ложым сена (сімвал беднасці бэтлеемскай пячоры). Пасярэдзіне стала ставім свечку, кладзём Біблію, адгорнутую на тым фрагменце, які пасля будзем чытаць. Побач ставім сподак з аплаткамі. У пакоі можна таксама размясціць упрыгожаную ялінку, змайстраваць імправізаваную бэтлеемскую стайню.

Паколькі ў Вігілію на Божае Нараджэнне нас абавязвае пост, усе стравы на нашым стале павінны быць поснымі. На святочным стале не можа быць алкагольных напояў: хрысціянскае святкаванне і ўжыванне алкаголю – не сумяшчальныя рэчы!

Калі на небе з'явіцца першая зорка, распачынаем святочны вечар. Спачатку ў пакоі з выключаным святлом, сімвалізуючым цемру граху, што панавала на свеце да нараджэння Езуса, спяваем адвэнтовыя песні аб чаканні прыходу Збаўцы. Пасля бацька сям'і запальвае свечку і кажа: "Святло Хрыста!" Усе адказваюць: "Дзякуем Пану Богу!" Адзін з удзельнікаў вячэры чытае Евангелле аб Божым Нараджэнні (Лк 2, 1 - 20).

*Словы Евангелля паводле святога Лукі:*



"Істалася ў тыя дні выйшаў ад кесара Аўгуста загад зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэты перапіс быў першы ў праўленне Квірынія Сірыяй. І пайшлі ўсе запісвацца кожны ў сваё места.

Пайшоў таксама і Язэп з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давідаў, называны Бэтлеемам, бо ён быў з дому і роду Давідавага, запісацца з Марыяю, заручанаю яму жонкай, якая была цяжарная.

Калі ж былі яны там, настаў час радзіць Ёй; і нарадзіла Сына Свайго першынца, і спавіла Яго, і паклала Яго ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе.

У той краіне былі на полі пастухі, якія трымалі начную варту каля статку свайго. Раптам з'явіўся ім Анёл Панскі, і слава Божая апраменіла іх; і спалохаліся страхам вялікім.

І сказаў ім Анёл: не бойцеся; я ўзвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе ўсім людзям: бо сёння нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збаўца, Які ёсць Хрыстос Пан; і вось вам знак: вы знойдзеце Дзіцятка ў пялюшках, Яно ляжыць у яслях.

І раптоўна з'явілася з Анёлам шматлікае войска нябеснае, славячы Бога і заклікаючы: Слава ў вышынях Богу, і на зямлі супакой, і ў людзях добрая воля. І сталася, як адышлі ад іх анёлы на неба,

пастухі сказалі адзін аднаму: "Пойдзем у Бэтлеем і паглядзім, што там здарылася, што абвясціў нам Пан". І хутка выйшлі і знайшлі Марыю і Язэпа, і Дзіцятка ў яслях. Угледзеўшы ж, расказвалі аб тым, што было абвешчана ім пра Дзіцятка гэтае. І ўсе, чуўшы, дзівіліся з таго, што расказвалі ім пастухі. А Марыя захавала ўсе словы гэтыя ў сэрцы сваім. І вярнуліся пастухі, праслаўляючы і выхваляючы Бога за ўсё, што чулі і бачылі, як ім сказана было."



Бацька сям'і нагадвае ўсім прысутным сэнс свята, звяртаючыся да іх прыкладна такімі словамі: "Сёння мы ўзгадваем прышэсце Езуса Хрыста на зямлю. З любові да нас Спрадвечны Бог стаў чалавекам, каб паяднаць з Айцом грэшнае чалавецтва. У Езусе Хрысце Бог даравaў нам нашы грахі. Таму і мы на знак узаемнага прабачэння возьмем у рукі аплатак і падзелімся ім, успамінаючы таксама ў гэты Святы Вечар усіх тых, з якімі мы хочам быць побач."

Сабраныя на вячэры па чарзе гавораць свае малітвы – просьбы, заканчваючы іх словамі: "Цябе просім." Усе адказваюць: "Выслухай нас, Пане!" Пасля ўсе, трымаючыся за рукі, разам моляцца "Ойча наш."

Бацька раздае аплаткі, пачынаючы ад старэйшага. Потым бацька гаворыць пажаданне і дзеліцца аплаткам з маці, пасля са старэйшымі ў сям'і і з дзяцьмі. Дзеці спачатку дзеляцца аплаткам з бацькамі, потым з бабуляй і дзядуляй і паміж сабой.

Гаворачы ўзаемныя пажаданні, паспрабуем не абмяжоўвацца словамі "шчасця", "здароўя", "дабрабыту", бо нашы блізкія перш за ўсё патрабуюць не гэтага, а Божага блаславення і ласкі, Хрыстусовага супакою, узмацнення веры.

Па вячэры папросім дзяцей пакласці ў яслі фігурку Дзіцяці Езуса. Выкарыстаем гэтыя ўрачыстыя хвіліны, каб паразмаўляць з нашымі дзяцьмі аб падзеі, якую ў гэты вечар узгадваем. Распавядзём ім аб таямніцы ўцелаўлення Божага Сына, аб значэнні Яго нараджэння для нашага жыцця.

Пасля, спяваючы калядныя песні, будзем чакаць пастэрку – урачыстую Святую Імшу а поўначы.

***Няхай свята Божага Нараджэння стане для нас не толькі нагодай прыемнага правядзення часу ў сямейным коле. Жадаем, каб у гэты Святы Вечар у кожным сэрцы сапраўды нарадзіўся Бог !***

# Як святкавалі Божае Нараджэнне на Беларусі



Сучаснаму чалавеку патрэбна вялікая праца душы, каб пранікнуць за тую мяжу, дзе пазнаецца Бог з Яго запаведдзю "любі бліжняга як самога сябе". Сёння мала хто, асабліва сярод моладзі, адчувае неабходнасць такой працы над сабой.

Спыніўшыся на хвіліну, падумаем пра тое, што набліжаецца Божае Нараджэнне – свята светлай радасці і любові да Таго, Хто збаўляе нас ад грахоў.

Хрыстос нарадзіўся! Прыйшоў Збавіцель свету, заззяла ў начы Яго зорка, каб вызваліць людзей ад самага непазбежнага, ад таго, прад чым бяссільныя ўлада, багацце, навуковыя веды – усё, чым ганарыцца чалавек у гэтым хуткабежным жыцці, ад цемры смяротнай – той хваробы, якая не мае лекаў...

Давайце паглядзім, як праходзіла святкаванне Божага Нараджэння ў нас, на Беларусі, у старажытны час. На пярэдадні Божага Нараджэння была святочная вячэра з куццёй, якую часцей за ўсё рабілі з ячнай крупы, дабаўляючы мёд, арэхі і суп з сушанай садавіны. Са з'яўленнем першых зорак на небе сядалі вячэраць. Колькасць страў, што падаваліся на стол, была роўнай дванаццаці. Чыстых талерак ставілася на адну больш. Гэта сімвалізавала запрашэнне да святочнай вячэры ўсіх самотных, тых, у каго не было сям'і ці дому. Пазней на пачатку вячэры сталі дзяліцца аплаткам і жадаць дабра аздін аднаму, выбачаць крыўды дзеля вялікага свята.

Заможныя людзі на пярэдадні свята Божага Нараджэння раздавалі міласціну бедным і зняволеным у турмах. У дзень Божага Нараджэння здаўна быў звычай славіць Хрыста, спяваючы калядныя песні. Гэта называлася калядкамі. Калядоўшчыкі хадзілі ад хаты да хаты з вялікай зоркай, у сярэдзіне якой запальвалі свечку. Часта яны атрымоўвалі замест грошай што-небудзь ядомае, і тады гэта ўсё елі ў кампаніі пасля калядавання. У гэтым часе святары таксама наведвалі дамы сваіх вернікаў, спяваючы святочныя песні.

Алена.



## *Пророчества Ветхого Завета о Христе*

***По горизонтали:***

1.Из какого маленького города произойдет Мессия? (Мих 5,2-4)

2,3.Что надломленное не переломит и курящееся не угасит Мессия? (Ис 42,3)

4.Из какого колена Израилева происходил Иисус? (Быт 49,10)

5.Как Бог называет Мессию, Которого Он держит за руку? (Ис 42,1)

6.Как самый первый раз в Библии назван Мессия? (Быт 49,10)

***По вертикали:***

7,11.Куда человек будет поражать змея, а змей – жалить человека? (Быт 3,15)

8.Кем Бог сделает Мессию, чтобы спасение простерлось до концов земли? (Ис 49,6)

9.Как нарекут Сына, рожденного Девой (Ис 7,14)

10.Какая земля возвеличится с приходом Мессии? (Ис 9,1-2)






---

## *Тры каралі*

Калі Езус нарадзіўся ў Бэтлееме, тры каралі з усходу ўбачылі на небе незвычайную зорку. Яны даўно ведалі: з'яўленне гэтай зоркі будзе значыць, што на зямлю прыйшоў Збавіцель.

Таму каралі хуценька сабраліся, узялі каштоўныя дары і на вярблюдах вырушылі ў дарогу. А зорка ўвесь час была прад імі, паказваючы кірунак. Падарожжа было вельмі цяжкім і небяспечным, але каралі пераадолелі ўсе перашкоды. Яны не спалохаліся нават тады, калі зорка часова знікла ім з вачэй.

Прыбыўшы ў Бэтлеем, каралі знайшлі Божае Немаўля і з вялікай радасцю ахвяравалі Яму свае дары: золата – сімвал каралеўскай улады, ладан – знак таго, што ў гэтым Дзіцятку яны прызнаюць Бога, смірну як прадказанне будучых пакутаў, якія спаткаюць Дзіця, калі Яно вырасце.



Пасля стомленыя цяжкім падарожжам каралі пайшлі адпачываць і ў сне атрымалі загад Анёла, каб не вярталіся да Ірада, а іншым шляхам пайшлі ў сваю краіну.

Анёл таксама явіўся ў сне Язэпу і сказаў яму: "Устань, вазьмі Дзіця і Маці Ягоную, і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе, бо Ірад хоча шукаць Дзіцятка, каб загубіць Яго".

"Веснік надзеі" – парафіяльная газета. Газета выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Архікатэдра Св.Станіслава.
Адрас рэдакцыі : 212030 г.Магілёў, вул.Камсамольская 4, тэл.22-19-84.Наклад 499 асобнікаў.